Зберагчы і Навялічыць

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Дзедзіч

№1 (87) • КАСТРЫЧНІК 2014






# СЛАВА ВОРШЫ!

**8 верасня дзень вайсковай славы ў Беларусі, прысвечаны знакамітай бітве пад Воршай. Сёлета гэтай яскравай падзеі з беларускай гісторыі споўнілася 500 год!**

**З гэтай нагоды 10 цікавых фактаў, расказаных гіторыкам Алесем Краўцэвічам.**

1. Сярод сімвалаў незалежнасці. «Трывала «забытая» за савецкім часам, бітва стала славутай, калі аднавілася незалежнасць Беларусі, у час посткаланіяльнай эйфарыі і фармавання ідэалогіі вызвалення. Тады і быў уведзены Дзень беларускай вайсковай славы, 8 верасня, у дзень перамогі пад Оршай.

2. Чаму Орша, а не Грунвальд? Беларусы там сёння — «бедныя сваякі». А Аршанская бітва, па-першае, адбывалася на нашай тэрыторыі. Па-другое, яна была абарончая. І па-трэцяе — гэта была бітва з самым страшным ворагам на працягу ўсёй гісторыі Беларусі.

3. Канкістадоры. Мілітарызаваная Маскоўская дзяржава, прапарцыйна большая за ВКЛ, нарасціла вайсковую сілу ў мангола-татарскія часы. Калі ярмо было скінутае, яны кінулі гэтую вайсковую масу на Захад і пасля на Сібір — як некалі іспанцы, пасля сканчэння Рэканкісты, — на Амерыку.

4. Орша як пазітыў. Для ВКЛ навала такой масы маскоўцаў была нечаканасцю. Ад сярэдзіны XV стагоддзя раз за разам з-за ўсходняй мяжы з'яўлялася войска і несла спусташэнне. І немагчыма было яго спыніць. І пад Оршай — удаецца не проста спыніць, а знішчыць. Гэта была яркая перамога сярод страшнай паласы паразаў.

5. Чаму войска ВКЛ саступала па колькасці маскоўскаму. Каб наймаць войска, трэба грошы. А шляхецкія ўладанні ВКЛ былі вызваленыя ад дзяржаўных падаткаў. Каб атрымаць грошы на войска, вялікаму князю трэба была згода Сойму, якую блакавалі дэпутаты з цэнтральных ваяводстваў. Ім не было справы да вайны. Масковія, цэтралізаваная да дэспатызму дзяржава з жорсткай падаткавай сістэмай, выйгравала. Маючы грошы, наймала генуэзскую пяхоту. Маскоўская выведка па ўсёй Еўропе шукала артылерыйскія тэхналогіі, майстроў і артылерыстаў.

6. У чым майстэрства Астрожскага. Паводле агульнапрынятай версіі, гетман Астрожскі дабіўся поспеху, падманным адступленнем завабіўшы маскоўскае войска ў засаду і расстраляўшы з гармат. Майстэрства было — ведаць, дзе паставіць гарматы і менавіта на іх вывесці асноўную масу варожага войска.

7. Як кіравалі войскам. Як мог палкаводзец у XVI стагоддзі кіраваць шматтысячнымі атрадамі, змушаючы іх выконваць правільныя манеўры? Існавала сістэма інфармавання — група ганцоў, якія перадавалі загады гетмана камандзірам харугваў. Камандзір даваў сігналы харугве з дапамогай трубаў, ражкоў. Была і сістэма сігналаў харугвай — вялізным сцягам — асабліва падчас бітвы, у агульным галасе. Напрыклад, можна было паказаць змену кірунка атакі.

8. На Крапівенскім полі марна штосьці шукаць. Ідэя раскопак выклікае скепсіс. Даспехі, зброя — усё гэта каштавала як маёнтак. Забітых абдзіралі, забіраючы ўсё. Нават стрэлы, якія не пацэлілі.

9. Вобраз гетмана Астрожскага ламае расейскую ідэалагему. Маўляў, войны з ВКЛ — гэта процістаянне праваслаўнай Русі каталіцкаму Захаду. Астрожскі быў праваслаўны, ён сядзеў у маскоўскай вязніцы. Ён мог перайсці на бок Масквы, як зрабілі многія, але з першай магчымасцю ўцёк. Абраў змаганне за Айчыну. Для яго праваслаўная Масква была страшнейшай за каталіцкі Захад.

10. Аршанская перамога тармазнула экспансію. Масква перастала бяздумна пасылаць атрады ў ВКЛ. Наша дзяржава атрымала перадышку. У выніку XVI стагоддзе стала залатым векам беларускай культуры.

**Паводле: nn.by**

АДНЫМ РАДКОМ

## С 1 ОКТЯБРЯ ХОДИТЬ ПЕШКОМ ЧЕРЕЗ ГРАНИЦУ С ЕС ЗАПРЕЩЕНО




**Уровень оснащенности пунктов пропуска не обеспечивает необходимый уровень безопасности пешеходов и постоянно создает сложные условия дорожной обстановки в пунктах пропуска.**

Пешеходное движение в автодорожных пунктах пропуска на границе Беларуси с Латвией, Литвой и Польшей временно прекращается с 1 октября. Данное решение обусловлено отсутствием в беларусских пунктах пропуска необходимой инфраструктуры для пешеходного движения.

В настоящее время уровень оснащенности пунктов пропуска не обеспечивает необходимый уровень безопасности пешеходов и постоянно создает сложные условия дорожной обстановки в пунктах пропуска, которые ранее проектировались исключительно как автодорожные, пояснил пресс-секретарь Государственного пограничного комитета Александр Тищенко.

Кроме того, пишет БелаПАН, необорудованность точек контроля при растущей популярности данного способа пересечения границы регулярно провоцировала образование очередей даже из пешеходов.

Государственный таможенный комитет Беларуси сообщает, что данная мера временная. И будет дествовать до завершения мероприятий по совершенствованию инфраструктуры пунктов пропуска с учетом интересов пешеходного движения.

**Паводле: eurobelarus.info**

# VKONTAKTE КУПІЛІ

## САЦСЕТКА ПЕРАЙШЛА ПАД 100% КАНТРОЛЬ АДЫЁЗНАГА АЛІГАРХА

**Mail.ru Group, якой валодае алігарх Алішэр Усманаў, паведаміла сёння пра набыццё рэшты сацыяльнай сеткі Vkontakte. Буйнейшая рускамоўная сацыяльная сетка такім чынам перайшла пад 100% кантроль самага багатага алігарха Расеі.**




Раней Mail.ru Group ужо прыдбала 52% сацыяльнай сеткі, цяпер у яе ўласнасць перайшла і рэшта з 48% акцый. Агульны пакет Vkontakte каштаваў групе Ўсманава каля 2 млрд. Грошы на новую ўгоду Mail.ru выдаткавала з уласнага бюджэту, а таксама з крэдыта Газпрамбанка.

Бакамі ўгоды сталі Mail.ru, Фонд UCP Іллі Шэрбовіча і заснавальнік Vkontakte Павел Дураў — усе яны дамовіліся пра тое, што ранейшыя разнагалоссі цяпер урэгуляваныя. Цягам некалькіх апошніх гадоў уладальнікі Vkontakte знаходзіліся ў канфлікце, які перыядычна выходзіў у медыі.

Уладальнікам групы Mail.ru з'яўляецца самы багаты чалавек Расіі Алішэр Усманаў. Паводле дадзеных часопіса Forbes, у 2013-м маёмасць алігарха складала каля $17.6 млрд. Будучы аліхарх перабраўся ў Расею з Узбекістана, дзе праходзіў па некалькіх крымінальных справах і быў асуджаны на 8 год, але вызвалены датэрмінова праз тры гады. Экс-амбасадар Вялікабрытаніі ва Ўзбекістане Крэйг Мюррэй называе новага ўладальніка Vkontakte гангсцерам і рэкецірам.

Mail.ru Group валодае шматлікімі медыямі ў рускамоўным сегменце Сеціва, а таксама сацыяльнымі сеткамі «Одноклассники» і «Мой мир».

У красавіку 2014 года Павел Дураў сышоў з пасады генеральнага дырэктара «Вконтакте» і з'ехаў з Расіі. Заснавальнік Vkontakte таксама заяўляў, што быў змушаны прадаць свой пакет акцый, бо сацыяльная сетка адмовіла ФСБ у выдачы звестак пра ўкраінскіх карыстальнікаў, якія стварылі 39 паблікаў, прысвечаных ЕўраМайдану.

Карыстальнікі сацыяльнай сеткі «Одноклассники», якой раней завалодаў Mail.ru Group, паведамляюць пра шматлікія факты цэнзуры: папулярныя відэа, якія крытыкуюць Пуціна і агрэсію РФ супраць Украіны, часта блакуюцца ўжо праз некалькі гадзінаў пасля публікацыі.

Паводле дадзеных Gemius, сацыяльная сетка vk.com з'яўляецца самым наведвальным рэсурсам сярод беларусаў, штодня на яе з Беларусі прыходзяць каля 1.5 млн чалавек.

**Паводле: generation.by**

# ВЕЛО-БРЕСТ БЕЗ ГРАНИЦ!

**Тысячи граждан Польши поддержали открытие велосипедного движения на погранпереходе «Варшавский мост». Их подписи будут отправлены в Министерство иностранных дел Польши, Погранкомитет и главе Люблинского воеводства.**




22-24 августа кампания «За Вело-Брест!» провела акцию «Открытые границы для велосипедов».

Не смотря на капризы погоды в виде дождя и ветра, велоактивисты смогли собрать около 1000 подписей у жителей Люблинского воеводства: Бяла-Подляски и Мендзыжеца-Подляского, Любартова и Люблина, Радзина-Подляского, а также раздать пять тысяч листовок, призывающих к свободному перемещению велосипедов через погранпереход «Варшавский мост».

***Владимир Красько***, координатор кампании «За Вело-Брест!»:

*«Подавляющее большинство людей, которых мы встретили во время сбора подписей, высказывали нам свою поддержку. Положительные отзывы можно увидеть и в комментариях к электронным подписям в Интернете, которые граждане Польши ставят под нашим обращением.*

*Во время сбора подписей свою поддержку высказал также депутат городского совета Люблина Збигнев Юрковский. Мы случайно встретили его на улице: он также поставил свою подпись и предложил в дальнейшем привлекать его к решению этого вопроса».*

Инициатива брестчан была поддержана люблинским велоклубом «Porozumienie rowerowe». Польские велоактивисты установили на фонарном столбе плакаты с призывом пропускать беспрепятственно велосипеды через границу, а также агитировали прохожих активнее ставить подписи под петицией.

Акция «Открытые границы для велосипедистов» будет продолжаться до полной победы велосипедистов. Впереди велопробег, велофорум, встречи с представителями польских властей и другие мероприятия. Будь в курсе событий: vk.com/zavelobrest, velo.dzedzich.org.

**dzedzich.org**

# ВСЕМИРНЫЙ ДЕНЬ БЕЗ АВТОМОБИЛЯ

**Акция проходила 21 сентбря и была приурочена ко «Всемирному дню без автомобилистов». Подобное мероприятие проводится в Бресте уже 7 раз.**

Организаторы этой акции ГосАвтоИнспекция ГАИ Брестского Облисполкома, совместно с официальным партнером Магазин «ВелоСклад» г. Брест, подготовили информационно развлекательную программу для жителей города, на площадке возле Ледового Дворца.




Для всех желающих было подготовлена большая программа: велоэстафета, викторина на знание правил дорожного движения, театральная постановка от юных Автоинспекторов Гимназии №2, конкурс на самый оригинальный велосипед;

Магазин «ВелоСклад» подготовил очень приятные призы для участников программы, а так же все желающие, могли пройти технический осмотр своего велосипеда, специалистами магазина.

Так же была организованна колонна велосипедистов, которая двигалась по городу в сопровождении ГАИ, в которой участвовали спортсмены Детской Спортивно Юношеской школы  г. Бреста. Колона получилась, международной, были приглашены студенты из БРГТУ, которые приехали к нам из Нигерии.

«Очень приятно, что ГосАвтоИнспекция, с большим желанием проводит мероприятия такого рода, для велосипедистов. После такого рода мероприятий, чувствуется Европейский дух, что велосипед приравнивается к основному транспорту в городе, к которому уделяется такое же внимание, как и к автомобилю» – отметил Антонов Марк заместитель координатора кампании «За Вело-Брест!».

**dzedzich.org**

## АДНЫМ РАДКОМ

# ВЕЛОПАРКОВКЕ НА БРЕСТСКОМ ЦЕНТРАЛЬНОМ ВОКЗАЛЕ - БЫТЬ!



**Думаем, что многих приезжающих на брестский вокзал на велосипеде волновал вопрос где оставить своего коня в безопасности на время поездки в поезде, электричке. Хотя бы в течении дня.**

С этим вопросом, приложив подписи брестчан, активисты “За вело-Брест!” обратились к руководству вокзала:

«Учитывая масштабы проведённой реконструкции станции «Брест-Центральный», учитывая актуальность и положительный эффект от использования велотранспорта в повседневной жизни для горожан, в полном соответствии со взглядами местных и республиканских властей на развитие велодвижения ПРОСИМ:

1.Оборудовать место для безопасной стоянки велосипедов на станции «Брест-Центральный»(например, возле камер видеонаблюдения по периметру здания вокзала)

2.Оборудовать пандусами пешеходный мост на станции «Брест-Центральный»(Эта проблема кроме велосипедистов актуальна также для пассажиров с детскими колясками и сумками на колёсах)». (Цитата из обращения).

В полученном ответе сказано: “Велопарковкам быть!”:

«Места для стоянки велосипедов на территории вокзала ст. Брест-Центральный будут оборудованы в ближайшее время» - говорится в ответе на обращение.

Также в ответе содержится информация о том, что существующий пешеходный мост не может быть переоборудован из-за недостаточной ширины боковых и центральных сходов (если оборудовать мост необходимыми для велосипедов, колясок, багажных сумок пандусами, то ширина моста станет меньше необходимых по стандартам двух метров.

В ответе также содержалась информация о решении этой проблемы:

«...»Государственной программой развития железнодорожного транспорта на 2011-2015 г.»... предусмотрено долевое строительство конкорсов (пешеходных тоннелей) с участием облисполкома (бюджет Брестской области) в ходе реконструкции вокзального комплекса ст. Брест-Центральный, кроме того в скором будет начато строительство автовокзала в р-не здания товарной конторы по ул. Орджоникидзе».

Как следует из ответа, велосипедистам можно надеяться на заслуженную и необходимую парковку  и на удобный способ добраться до вокзала.

Подробности о планируемом месте размещения велопарковок будут известны познее.

**dzedzich.org**

# БЕРАСЦЕЙСКІЯ ГАРАДСКІЯ СВЯТЫ
## ШАШЛЫК, ПІВА І КАНЦЭРТ?

**У жніўні Берасце наведала культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" з цікавай тэмай і, як вызначылі пазней, праблемай – "Ці могуць гарадскія святы быць зробленыя... гараджанамі?"**

На пачатку вызначым, што "гарадское свята – гэта публічная акцыя альбо вялікая падзея, якая праводзіцца як мінімум у маштабах горада" (са слоў ***Уладзіміра Булаўскага***, VITEBSK4.ME).

У зале гатэля "Інтурыст" сабраліся журналісты, гараджане, якія маюць вопыт у арганізацыі "штучных" імпрэз і актыўныя людзі, якім не абыякава культурнае жыццё Берасця. Спікерам і своеасаблівым каардынатарам дыскусіі выступіў Уладзімір Булаўскі, вядомы больш па культурнай прасторы VITEBSK4.ME.

*"Чаму прыйшлі на дыскусію?"* – пытае адразу Ўладзімір. І панеслася з розных бакоў: паразмаўляць з экспертамі, паслухаць новыя ідэі, убачыць прафісіяналаў і канешне, выказаць сваю думку, жыхара Берасця, пра разнастайнасць гарадскіх святаў.

Не дзіўна, што з большага гаварылі пра шашлык, "псеўдазорак", піва ды гарэлку кожны год. Для кагосьці гэта яшчэ адна прычына ўстаць з канапы, выйсці на вуліцу, паесці, купіць рэчы і зноў у свой куток.

### СЁННЯ СВЯТА НЕ МАЕ АСАБЛІВАГА ЗНАЧЭННЯ: ДЗЕЛЯ ЧАГО ЯНО ЛАДЗІЦЦА І ЯКУЮ МЭТУ НЯСЕ

Вынік – не праводзіцца маніторынг, апытанка людзей, што хацелася бы бачыць на гарадскіх святах, ці якіх спявакоў запрашаць на імпрэзу. У ідэале пасля пытаць у жыхароў іх асабістае меркаванне наконт канкрэтнай падзеі.

*"Ці наведваеце Вы гарадскія святы і чаго чакаеце ад іх"* – цікавіцца спікер. Аўдыторыя падзялілася напалову – "за" і "супраць". У аднаго – узнікае жаданне пакінуць горад, у другога – нагода сустрэцца са знаёмымі, якіх ужо не бачыў даўно, у трэцяга – адпачыць з сям'ёй. Былі і тыя, хто гарадское свята асацыюець з "масавым тупізмам". І нават пагадзішся з апошняй думкай. Напрыклад, штогадовае свята – дзень горада нагадвае "зомбі-фэст". З ранку да ночы песні-скокі, дым ад мяса і алкагольныя твары ў кожным закутку горада.

*"Ці могуць гарадскія святы прыцягнуць увагу людзей з іншых гарадоў Беларусі, краін у Берасце?"*

З пункту гледжання журналіста-фрылансера Іны Хоміч: гарадское свята – гэта АМАП з турнікетамі, праз якія трэба прайсці і адаць сваю ваду, нават калі горача, а ўнутры купіць яшчэ адну. Яшчэ абавязкова канцэрт з невядомымі гуртамі і ўсеагульная папойка.

Іна лічыць, што ў Берасці няма "фішкі" дзеля якой можна паехаць са ўсёй Беларусі, і прывяла прыклады гарадскіх святаў-брэндаў – "Мотальскія прысмакі" і "Ружанская брама".("Мотальскія прысмакі" – фэстываль народных промыслаў і мясцовых мясных вырабаў, які праходзіць у аграгарадку Моталь, Берасцейская вобласць, "Ружанская брама" – гарадское свята, якое ладзіцца ў гарадскім пасёлку Ружаны, Пружанскі раён.)

Тут публіка ўзгадала міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа". Але, насамрэч, гэта падзея больш для вузкага кола людзей, тэатралазнаўцаў. Паўстае другое пытанне: набыць квіток у касе часам вельмі цяжка. Калі да цябе выпадкова прыедуць госці з Польшчы, напрыклад, і ты задумаеш павесці іх на спектакль знакамітай берасцейскай "Белай Вежы", не факт, што атрымаецца трапіць. Таму што з большага квіткі на маштабныя імпрэзы, ў рамках горада, загадзя распаўсюджваюцца на прадпрыемствах Берасця. Ёсць план, шаблон, стандарт у дробных асобных уладаў, які трэба выканаць.

### "БЕРАСЦЕЙСКАЕ СВЯТА – ГЭТА БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА?"

Што робяць берасцейцы для самабытнасці святаў, іх упрыгожванні беларускай гісторыяй?

У адказ на гэтае пытанне нажаль мала, што можна сказаць. Уладзімір Булаўскі зрабіў выснову, што берасцейскае свята – гэта абстрактная рэч і падзяліўся сваім досвітам актыўнай працы ў рамках горада Віцебска. А таксама параіў: па-першае, трэба наладзіць культурную камунікацыю ў Берасці і магчымасць уключэння гараджан у гарадскія мерапрыемства. Для гэтага патрэбны валанцёры, ролю якіх могуць выконваць студэнты ці школьнікі. Але публіка афлайнавай дыскусіі лічыць, што прыцягнуць валанцёраў і зацікавіць іх часам стала цяжка.



Як адзначыў актыўны берасцеец, Яўген Скрабутан, **людзі не могуць на валанцёрстве зарабляць**. А Аксана Бровач, журналіст-фрылансер, наадварот прыкмеціла, што **ініцыятыва і ідэі ў моладзі ёсць, але яны не могуць доўгатэрмінова працаваць над тым, што прыдумалі.** Насамрэч "затухаюць" маладыя берасцейцы хутка, стымулу няма.

Журналісты таксама могуць паўплываць на сітуацыю з арганізацыяй гарадскіх святаў – трэба ісці з апытанкай да жыхароў на вуліцах горада. Уладзімір падзяліўся: паўтары-два гады таму, калі мы рабілі першую дыскусійную пляцоўку ў Віцебску з мясцовымі ўладамі, была зроблена анкета. Кожны самастойна пісаў адказы і потым вынікі мы заносілі ў гарадскія адзелы ідэялогіі, культуры і г. д. Анкету запоўнілі каля 200 чалавек.

Наогул, калі ў цябе ёсць ідэя, ініцыятыва, нават самая шалёная, гавары пра яе. Будзь актыўным і ўпартым!

**Наталля Гарайкіна**

**Фота: budzma.org**

# ЗНАЙДЗІ ЕЎРОПУ Ў БЕЛАРУСІ



**Рух "За Свабоду" абвяшчае фотаконкурс "PRO-еўрапейскасць". Да ўдзелу ў ім прымаюцца здымкі, што ствараюць у беларусаў пазітыўны імідж Еўропы.**

Кожны дзень жыхары Беларусі сустракаюцца з рэкламай, шыльдамі, абвесткамі, з якіх вынікае, што Еўропа – гэта добра, а еўрапейскае – гэта сінонім добрай якасці, таму паслугі і тавары адтуль прадстаўляюцца як найлепшыя.

На дасланых фота абавязкова павінны быць згадкі пра Еўропу ў пазітыўным ключы. Здымкі могуць быць знятыя на фотаздымач, мабільны тэлефон ці іншае прыстасаванне.

У асобнай намінацыі прымаюцца здымкі-"селфі" на фоне рэкламы еўрастылю і еўраякасці.

Фотаздымкі прымаюцца ў фотаальбом "Фотаконкурс" на старонцы Руху "За Свабоду" ў Facebook альбо на пошту info@pyx.by з пазнакай "Фотаконкурс".

Конкурс будзе доўжыцца да канца кастрычніка. Вынікі журы падвядзе за першы тыдзень лістапада.

Пераможца атрымае ў якасці прыза экскурсійную паездку ў адну з еўрапейскіх краінаў. Другое і трэцяе месцы, а таксама першынство ў "селфі"-намінацыі будуць уганараваныя настольнымі гульнямі ("1514", "Разам" і "Паўстанцы").

**Pyx.by**

# СЕМЕСТР Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**Аб'яднанне студэнцкага абмену ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе (GFPS) выдзяляе стыпендыі для беларускіх студэнтаў і магістрантаў для навучання ў нямецкім універсітэце на працягу летняга семестра 2015 г.**

Патэнцыйны стыпендыят: валодае нямецкай мовай на добрым узроўні, прымае актыўны ўдзел у грамадскім і/альбо культурным жыцці Беларусі, паспяхова вучыцца, хоча бліжэй пазнаёміцца з нямецкай культурай і грамадствам.

**Абавязковыя ўмовы для падачы заяўкі:**

беларускае грамадзянства;

статус навучэнца беларускай ВНУ (альбо ЕГУ);

На момант атрымання стыпендыі студэнт мусіць навучацца мінімум на 3 курсе беларускай ВНУ.

Праграма ўключае:

асабістую падтрымку і дапамогу на месцы навучання – Вас забяруць з вакзала, паклапоцяцца пра жытло і залічэнне; фінансавую падтрымку, дастатковую для бесклапотнага навучання і жыцця ў Нямеччыне; візавы ўнёсак і плату за залічэнне.

Падаць заяўку на стыпендыю можна выключна анлайн: www.gfps.org/bewerbung/deutschland-belarus/

Дэдлайн – 30 кастрычніка 2014

Па дадатковых пытання можна звяртацца на электронны адрас belarus@gfps.org

**adukacyja.info**

# ЗАЛЕССЕ-2014!

**Як ужо стала добрай традыцыяй, кожнае лета Дзедзіч запрашае маладзёнаў з усёй Беларусі завітаць у маленькую вёсачку недалёка ад Берасця і дапамагчы будаваць Дом Еўрапейскіх сустрэч.**



**Восенню 2008 года ў вёсцы Залессе Камянецкага раёну намаганнямі сяброў "Дзедзіча" быў знойдзены і выкуплены прыгожы дом 1931 года пабудовы. Ужо 5 гадоў паступова, але мэтанакіравана вядуцца будаўнічыя працы па стварэнні грамадскага асяродка для адукацыйных, культурных, спартыўных і экалагічных імпрэз, летнікаў, семінараў, канферэнцый, музычных фэстаў, у якіх будзе браць удзел моладзь з Беларусі і іншых краін Еўропы.**

У гэтым годзе летнік праходзіў з 21 па 26 ліпеня. Працы было шмат, але з ёй спраўляліся яшчэ да абеда: шпаклявалі сцены, прыбіралі будаўнічае смецце, разбіралі старыя завалы вакол хаты і, канешне, гатавалі ежу.

Пасля абеду пачыналася самае цікавае. Творчыя сустрэчы, гульні, адукацыйныя семінары. Да нас завітаў і музычны гурт, і калектыў фаер-шоу, семінар «правы чалавека на пальцах», Аляксандр Лагвінец і іншыя госці. Але самае галоўнае, што гэтым летам сабралася сапраўды вялікая і дружная тусоўка маладзёнаў, якія і папрацаваць могуць разам, і ля вогнішча да самага ранку пасядзець (за слушнымі размовамі, песнямі пад гітару ды хорар-гісторыямі). Увогуле, весела было!

Пад час летніка маладзёны вялі і дзённік (таксама ужо традыцыйны). Таму вашай увазе некалькі ўрыўкаў з іх.

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

У панядзелак, 21 ліпеня ў вёсцы Залессе распачаўся летнік, дзе Дзедзіч разам з маладзёнамі з розных гарадоў будуюць Дом Еўрапейскіх сустрэч.

Першы дзень адкрыў нам магчымасці для азнаямлення з аб'ектам працы ды будучым калектывам. Адкрылася, што мы маем:

1) фактычна гатовы да выкарыстання аб'ект, які патрабуе шмат нашай касметычнай, але вельмі істотнай працы;

2) інтэрнацыянальны трохмоўны калектыў з прастаўнікоў рускай-беларускай і японскай культур :)

3) добра падрыхтаваную валантэрска-захапляльную праграму.

Па апошнім пункце сёння і пойдзе гаворка, бо дзень знаёмстваў таму і прысвечаны, каб нас усіх пазнаёміць ды, так скажам, з'яднаць.

Для мяне гэта не першы летнік такога кшталту (да таго ўдзельнічаў у падобных летніках у Беларусі ды Украіне, на праэктах Крэва і Бараніўка "Дом для добрых людзей"), і мне ёсць з чым параўноўваць і што адзначыць.

Тут варта падкрэсліць шмат пазітыўных момантаў, пачынаючы ад загадзя падрыхтаваных і закупленых сродкаў першай неабходнасці, як ежа ды базавыя сродкі гігіены, да сістэматызаванай схемы праезду, дастаўкі валантэраў на месца працаў і іншае.

Праграма дня раздзялілася на некалькі ўзроўняў. Заезд і размяшчэнне, размеркаванне працы і рэалізацыя пачатковага праэкту, знаёмства і варштаты. Дзякуючы валантэркам Тацянне ды Александры мы правялі варштаты з трэнінгамі на знаёмства, на замацаванне імёнаў і інтэрактыўныя ўзаемадзеянні.

Другі пазітыўны момант, ён жа другі пункт праграмы, гэта размеркаванне працы. Загадзя фронт працы быў структурызаваны ў працоўным, прыборчым і забеспячэнскім кірунках, таму сам працэс размеркавання заняў не больш за тры хвіліны (не тое, што ва ўніверы). А далей ужо давялося кінуцца з галавою ў працоўную завіруху.

Знаёмства, сняданак (што плаўна сыходзіў у абед), праца ды прыборка і бясконцыя варштаты і ўзаемадзеянне з незвычайнымі асобамі – удзельнікамі летніку.

Па працах мы знаходзімся на фінальным этапе, ідзе шпатляванне сценаў ды абіўка трэцяга паверха, галоўнага пент-хаўса нашага Дома сустрэчаў, таму вялікая колькасць валантэраў дазваляе ў дастатковай ступені і папрацаваць і пагультаіць :)

Што датычыцца варштатаў – гэта не было нечым незвычайным, гэта была добра напрацаваная праграма з базісу наведанных валантэркамі раней адукацыйных семінараў еўрапейскага ўзроўню. Інтэрактыўныя заняткі на замацаванне памяці, аб'ектных асацыяцый і асоб дазволілі нам пазнаёміцца (а гэта 15 чалавек) і добра пазнацца цягам літаральна адной гадзіны.

## ДРУГІ ДЗЕНЬ

Мы пацягнуліся вучыцца шпакляваць і класці падлогу на 3-ім паверсе. Аднак, гадзіны працы праляцелі вельмі хутка, і пасля смачнага абеду мы працягнулі знаеміцца, бо да нас далучыліся шмат новых людзей: дзяўчыны з файер-шоў, гурт Cad Goddeu і нават адна дзяўчына з Польшчы. Яна прыехала ў Беларусь некалькі дзен таму разам з мужам на роварах, каб убачыць на ўласныя вочы Беларусь і навясціць свайго аднакурсніка ў Берасці. Яна паспела ўжо аб'ехаць некалькі весак ля Камянца, паглядзець Берасце, а зараз вырашыла паўдзельнічаць у летніку Залессе-2014.

Інтэграцыйныя гульні былі даволі незвычайнымі і патрабавалі крэатыву ад усіх удзельнікаў. Пасля актыўтых гульняў трэба было крыху адпачыць і мы гралі ў настольную стратэгічную гульню, а частка людзей проста адпачывала. Яшчэ гулялі ў фрысбі, гульня атрымалася вельмі дынамычная, пасля яе вырашылі - трэба ісці на возера.

Стомленныя і задаволенныя мы вярнуліся ў летнік, дзе нас чакала файер-шоў ды гурт Cad Coddeu, які падаравалі нам паўгадзіны сярэднявечнай музыкі і танцаў.

## ЧАЦВЁРТЫ ДЗЕНЬ

Калі ты едзеш у працоўны лагер, і гэта не ГУЛАГ, то кожны дзень у ім заўжды асаблівы. Першы дзень людзі знаёмяцца між сабой, усе намагаюцца паказаць сябе з лепшага боку, выглядаюць прыгожымі, стрыманымі і працавітымі. На другі дзень людзі прыціраюцца, шліфуюцца, каб пэўная колькасць разнастайных людзей стала суполкай. Трэці дзень – пачатак сяброўства: можа быць, мы ўжо не такія ўсе прыгожыя і працавітыя, але свае, родныя. І вось чацвёрты дзень.

Ён мае сваю спецыфіку: ты ўжо прывязаўся да людзей, ты стаў часткай агульнага, а засталося так мала часу быць разам, што намагаешся ў поўнай меры атрымліваць асалоду ад людзей, ад свежага паветра, ад фізічнай працы, ад самой атмасферы летніка.

Такі настрой панаваў і тады, калі раніцай апынулася, што шашлыкі, якія гатаваліся палову ночы, той жа ноччу былі з'едзены без удзелу некаторых удзельнікаў. Такі настрой панаваў, калі пасля снядання, прыгатаванага нашымі дзяўчатамі і выдатным кухарам Дзянісам, усе ўзяліся за працу. Раптам апынулася, што не толькі адзін Шанпэй – наш сябра з Японіі – умее капаць траншэі з такой адданасцю, якая была толькі ў Паўліка Марозава да партыі і Леніна. Хлопцы самааддана капалі пакуль астатнія прыбіралі смецце вакол дома, шпаклявалі, касілі траву, збіралі парэчку для кампота. Стомленыя і брудныя мы паабедалі і паехалі на возера, каб хоць крыху больш адчуць сябе людзьмі, бо як апынулася, чалавекам можна адчуваць сябе толькі тады, калі на табе няма кілаграма бруду.

Калі ты адноўлены і чысты, можна плённа і з цікавасцю правесці час на семінары, чым мы і заняліся. Да нас прыехаў Міхаіл Мацкевіч, каб расказаць нам ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА НА ПАЛЬЦАХ. Ніколі б не падумала, што правы чалавека можна патлумачыць так, каб слухачы не заснулі. А тут нават поўнасцю наадварот: уважліва слухалі, задавалі пытанні, дыскутавалі, і ў рэшце рэшт Міхаіл Мацкевіч так загіпнатызаваў нас, што многія выказалі жаданне прайсці базавы курс па правах чалавека =)

Вечар наш, прасякнуты ўсё тым жа настроем чацвёртага дня, быў багаты на вострыя пачуцці. Пачалося ўсё з таго, што мы планавалі з'ездзіць за малаком у суседнюю вёску, а паехалі падарожнічаць па лясах і палях, збіраючы чарніцы і ганяючыся за зайцамі на машыне з дзіравым дном, бензабакам у салоне і з каністрай малака за спінамі. Насмяяліся, накрычаліся, напужаліся і паехалі вячэраць. А потым пасля вячэры яшчэ смяяліся і пужаліся пад фільм з Брэдам Пітам пра зомбі.

А ўночы каля вогнішча Дух Самурая прамаўляў да нас праз Шанпэя, які разам з гітарыстам Раманам імправізаваў на барабане. Пакуль усе не пазасыналі.

dzedzich.org

# ПА ВОЛЬНАЙ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЕ

## ПАВАНДРАВАЛА «НАША МОВА»

**На прыканцы лета "НАША МОВА" зладзіла вандроўку-экскурсію па Берасцейшчыне, пабачыла не вельмі вядомыя, але вартыя ўвагі гістарычныя мясціны-цікавосткі, заначавала ў намётах ля берага возера і зараз падрыхтавалася распавесці пра свае прыгоды.**



Маршрут вандроўкі "Вольная Берасцейшчына" праходзіў па мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю гістарычных асоб, якія сапраўды навечна засталіся вольнымі ў сваёй празе змагарства, такіх асоб, як Тадэвуш Касцюшка, Тадэвуш Рэйтан, Эдвард Катлубай і іншыя. Маладзёны наведалі Малыя Сяхновічы, Ястрамбель, Паланэчка, Грушаўку, Флер'янава і Нача - былыя сядзібы 18-19 стагоддзяў, помнікі і памятныя знакі ў гонар падзей беларускай гісторыі.

Пра вандроўку нам распавядае адна з непасрэдных удзельніц, Алена:

Прыемна ўразіў краязнаўчы музей у Малых Сяхновічах: было бачна, што супрацоўнікі шчыра цікавяцца лёсам Касцюшкі і усімі магчымасцямі (дарэчы не зусім вялікімі) намагаюцца захаваць і аднавіць спадчыну. Дырэктар музея, як заўважыла наша зацікаўленне ды захапленне нават паказала дуб, які пасадзіў сам Тадэвуш Касцюшка. Дарэчы тут мы вырашылі прывезці з вандроўкі не толькі прыемныя ўспаміны, а і жалуды (па магчымасці з кожнага месца) і пасадзіць іх ў Залессі, ля будучага Дома Еўрапейскіх Сустрэч. Спадзяемся яны добра прыжывуцца.

Далей мы пабачылі два шыкоўных палацы ў Ястрамбелі і Паланэчкі. Палацы сапраўды цудоўныя і прыгожыя, але, як часта ў нас гэта і адбываецца, няма ў нашай дзяржавы ні жадання, ні магчымасці праводзіць рэканструкцыю ў такіх малавядомых мясцінах. Таму яны так і стаяць – шыкоўныя, але ж даўно забытыя. А паглядзець там сапраўды ёсць на што.

У першы дзень у нас яшчэ застаўся час і мы вырашылі яго дарэмна не губляць і наведалі Завоссе, дзе месціцца музей Адама Міцкевіча, і адзін з старэйшых касцёлаў у Беларусі ў Ішкалдзі. Пасля ўжо стомленныя мы паставілі намёты ля возера, распалілі вогнішча, паспявалі беларускія песні (а як жа без іх) і пайшлі адпачываць.

У другі дзень нас гасцінна сустрэла Грушаўка – добрым надвор'ем і прыгожымі мясцінамі. Грушаўка – гэта радзіма выдатнага палітычнага дзеяча і сапраўднага патрыёта Тадэвуша Рэйтана.

Палаца-паркавы комплекс захаваў шмат пабудоў. Напэўна, больш за ўсе ўразіў сам палац. Там, унутры яго, захавалася тынкоўка, ляпніна, размалеваны столь. Нягледзячы на тое, што палац драўляны, захаваўся ён даволі добра, і дапаўняе яго вялікі парк з рэдкімі пародамі дрэў. Каля палаца захаваліся не менш прыгожыя пабудовы: 2 флігеля, стайні, лядоўня, будынак, які меў функцыю гаража, і яшчэ рэшткі нейкага вялікага будынка, з невядомай даследчыкам функцыяй.

Напэўна з усіх мясцін, дзе мы былі, менавіта Грушаўка захавала ў сябе дух былых часоў.

Апошнія дзве кропкі чамусьці не так моцна ўразілі, але іх гістогрыя не менш цікавая. У Флер'яна спадабаўся дуб, які пасадзіла сама Элаіза Пашкевіч, а сядзіба ў Начы, паказала, якая павінна быць класіка. Дарэчы, мы заўважылі, што пад сценамі палаца сушылася жыта, у гэтым было нешта такое невыразнацёплае і беларускае.

Мне здаецца, нам трэба больш вандраваць па родных мясцінах. Тут захавалася так шмат палацаў, маёнткаў, што належалі прадстаўнікам вядомых беларускіх радоў, дзеячам культуры і палітыкі сваёй краіны і замежжа, Еўропы, ЗША.

Пад час паездкі ўдзельнікі рабілі агульны дзённік экспедыцыі, а таксама нарыхтоўвалі фотаздымкі для будучай фотавыставы, наведаць якую крыху пазней (пра што мы абавязкова паведамім на нашым сайце dzedzich.org і ў адмысловых суполках у "Укантакце") змогуць усе ахвотныя.

dzedzich.org

# МІФЫ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**Беларуская мова – адна з самых міфічных моў свету – у тым сэнсе, што за вялікі час свайго існавання пра яе стварылі вялізарную колькасць міфаў – і нажаль гэтыя міфы даволі сумныя. Таму і будзем іх пакрыху ды ўсім светам выпраўляць.**




Дзе ўзяць беларускую навуковую тэрміналогію?

На якой мове быў напісаны правобраз першай канстытуцыі ў Еропе?

Што такое маскоўская мова?

Што такое кітабы?

На гэтыя і іншыя пытанні адкажа невячлікі (але і даволі змястоўны) буклет ад "НАШАЙ МОВЫ" – 10 міфаў пра беларускую мову. Пра яго распавяла ***Таццяна***, студэнка, адна з стваральніц буклета:

«Мы жадаем прыцягнуць увагу маладзёнаў, іх цікавасць да роднай мовы. Яшчэ раз нагадаць, што мы маем такі вялікі культурны, гістарычны здабытак. Нагадаць, што мова – гэта не толькі школьныя падручнікі, нейкія сумныя арфаграфічныя правілы, і сачынні пра тое, як праводзіць лета. Мова, яна ж жывая, яна змяняецца, развіваецца, і яна нам кажа пра нас саміх, пра нашу гісторыю.

Ну вось напрыклад, адзін з міфаў – шмат хто не ведае, але Статут ВКЛ – гэта адзін з першых у Еўропе вялікіх збораў законаў, фактычна, правобраз канстытуцыі – і напісаны на беларускай мове, у нашай краіне – гэта ж толькі падумаць! як такая мова можа быць калгаснай??»

Валанцёры "НАШАЙ МОВЫ" раздалі буклеты на вуліцах гораду, ды распаўсюдзілі сярод маладзёнаў Берасця.

**Міф №10**

**Табе здаецца, што на беларускай мове ўвогуле ніхто не размаўляе?**

**Але па дадзеных апошняга перапісу насельніцтва 60% людзей вызначае беларускую мову як сваю родную і 23% карыстаюцца ёй як размоўнай. Не так шмат, але яна і не мёртвая.**

Усё можаш змяніць ты – калі пачнеш размаўляць па-беларуску!




dzedzich.org

# КАМПАНІЯ “НАША МОВА”

## 8 ЯСКРАВЫХ БЕЛАРУСКІХ ПАДЗЕЙ

**У апошнія дні лета прайшлі завяршальная фотагульня і выніковая вячэра ад кампаніі “Наша мова” пад эгідай АРР “Дзедзіч”. Звычайна з надыходам восені, халодных і даждлівых вечароў успамінаецца ўся цяплыня мінулага лета: самыя яскравыя моманты, сустрэчы з новымі людзьмі, прыгоды і фэсты, што атрымалася наведаць, вандроўкі па роднаму краю ды за мяжу. З гэтай нагоды актывісты гісторыка-культурнага аб’яднання “Харугва” нагадалі самыя яскравыя падзеі кампаніі “Наша мова” для ўсіх жадаючых і неабыякавых берасцейцаў у вечары, 29 жніўня.**




**Фота-пераможца конкурсу “Мова, якой ганаруся”**

### КАХАЙ ПА-БЕЛАРУСКУ!

Пачалося ўсё з паштоўкі “Кахай па-беларуску!” да дня ўсіх закаханых. Вялікі дзякуй творцу Яўгену Ангалюку, які набраў 132 галасы з працай “Кахаю цябе”. Галоўным героем паштоўкі стаў снегавік, і аўтар патлумачыў чаму:

*«На момант пачатку конкурсу былі дастаткова сур’ёзныя маразы і было шмат снегу. Быццам невялікая часцінка цяпла сярод марозных дзён – снегавік з сэрцам у далонях. Сёння, шчыра кажучы, не думаў, што ад снега застануцца толькі лужы».*

У дзень святога Валянціна актыўная берасцейская моладзь павіншавала жыхароў беларускамоўнымі валянцінкамі Яўгена Ангалюка. У выніку – добры настрой, цеплыня і ўсмешкі людзей.

### БЕРАСЦЕЙСКІ ВЕРШНІК

Беларуская падзея № 2 – Берасцейскі ВЕРШнік. Ўдзельнікамі конкурсу сталі маладыя паэты. Верш пра паміраючую вёску, настаўніцы беларускай і замежных моў, атрымаў галоўны прыз – электронную кнігу.

**Ірына Зорка**, пераможца конкурсу распавяла пра свой верш:

*«Верш напісаны ад усяго сэрца і прысвечаны маёй роднай вёсцы. На жаль, памірае яна.*

*Вёска Ражковічы, Пружанскі раён. Моладзь паз’яджала. Засталіся тыя, каму ехаць няма куды – пенсіянеры. Таму і памірае… Люблю часам паслухаць расповеды старажылаў аб тым, якою вёска была раней. Слухаю і ня веру. Але надзея ёсць. Кожны год прылятаюць буслы, а гэта добры знак».*

### ФОТАМАЎЛЕННЕ

Фотападзея № 3 – конкурс “Фотамаўленне”. Цалкам любы берасцеец мог удзельнічаць. Быў патрэбен толькі апарат, які робіць любой якасці фотаздымкі, увага і назіральнасць удзельніка.

Намінацый было дзве: “Мова, якой ганаруся” і “Беларуская бязглуздзіца”

### «МОВА ДЗЕТКАМ»

Наступная акцыя была праведзена для самых маленькіх жыхароў Берасця – “Мова дзеткам”. У межах акцыі актывісты наведалі школкі з імпрэзамі і падарункамі.

Яшчэ адна яскравая ідэя акцыі – гэта стварэнне берасцейскім дызайнерам Ганнай Яцкевіч беларускай кніжкі з народнай казкай “Дзяцел, лісіца і варона”.

### ДЗЁННІК БЕЛАРУСА

Падзея № 5 была прысвечана небеларускамоўным жыхарам Берасця. “Дзённік беларуса” трэба было скласці па выніках дня маўлення на беларускай мове. Уражанні, складаныя моманты, поспехі берасцейцы адлюстроўвалі на бумазе. Прыемна, што ахвотных паразмаўляць на беларускай мове знайшлося даволі шмат. Пераможца конкурсу падзялілася сваімі ўражаннямі ад рэакцыі кіроўцы маршруткі, рэпетытару, маці і сяброўкі.

### МІФЫ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Амаль 300 асобнікаў адмысловых буклетаў пра родную мову актывісты кампаніі раздалі за паўтары гадзіны ў халодны дождж і вецер. Дзякуй усім жыхарам Берасця. Амаль кожны спрабаваў сказаць або “дзякуй”, або “калі ласка”. Прыемна было сачыць за ініцыятыўнай берасцейскай моладзю, гасцямі з-за мяжы і адказваць на пытанні пра мэту акцыі.




**Акцыя “Мова Дзеткам”. Кніжка “Дзяцел, Лісіца і Варона”**




**Фота-пераможца конкурсу “Беларуская бязглуздзіца”**

### ВОЛЬНАЯ БЕРАСЦЕЙШЧЫНА

І вось падыйшлі да вандроўкі па вольнай Берасцейшчыне. Самыя актыўныя ўдзельнікі кампаніі на два дні наведалі тыя мясціны, якіх няма ў сучасных паездках турфірм. Маладзёны ўбачылі Малыя Сяхновічы, Ястрамбель, Паланэчка, Грушаўку, Флер’янава і Нача.

Уражанні ўдзельнікаў паездкі можна чытайце на старонцы 6.

### ФОТАГУЛЬНЯ

Завяршальная падзея – сапраўдная беларуская фотагульня, а можа нават і квэст.

Ўдзельнікам гульні было прапанавана выканаць шэраг заданняў, звязаных з беларускай мовай і яе праяўленнямі ў нашым горадзе.

Кампанія «Наша мова» не спыняе на гэтым сваёй дзейнасці, нас чакае і наступны сезон, а каб зрабіць яго яшчэ больш цікавым і масавым мы чакае і тваё ідэі!

Пішыце нам! Мы радыя ўсім, абмежаванняў няма!

Электронны адрас: harugvabrest@gmail.com. ці кантакты АРР “Дзедзіч”.

Давайце размаўляць па-беларуску разам!

**Наталля ГАРАЙКІНА**

**Радзімка**

Малая радзіма мая
На мапе краіны — радзімка.
Там кожная сцежка — свая,
Там хараша летам і ўзімку.
Там бэз і чаромха вясной,
Язмін па начах ап’яняюць.
І павуцінкі над галавой
Скрозь бабіным летам лятаюць.
Там мова жывая штодня
Свой шарм захавала адвеку,
На могілках продкі-радня
Чакае штогод чалавека…
Там хараша, нібы ў раю,
Адранку спявае птаства.
А ўвечары жабы сваю
“Нахвальваюць” сажалку-царства.
Хачу я , каб квецень садоў
Не знікла, не згасла дачасна.
Вяртацца дамоў зноў і зноў…
І мара мая хай не згасне!

**Верш-пераможца конкурсу “Берасцейскі ВЕРШнік”. Аўтар Ірына Зорка**

# ЭКСПЕРЫМЕНТ ПРАВАЛІЎСЯ

## ПРА БЕЛАРУСАЎ-КАСМАПАЛІТАЎ

**У канцы жніўня званок са школы – час забіраць падручнікі. Мы цягаліся ў «храм ведаў» двойчы: кніг так шмат, што за адзін раз не данесці. Гісторыі, алгебры, літаратуры – усяго па некалькі асобнікаў – з пачатку 1990-х і больш новыя. Мне пашанцавала: недзе ў 2008-м было ў спешцы прынятае рашэнне адмяніць школьную рэформу, якую ўвялі, калі я якраз ішла ў першы клас. Мая паралель праходзіла двухгадовы курс за год. А значыць, выйграла год вольнага жыцця.**



Мы пераскоквалі з пачатку ў канец школьнай праграмы, як паддоследныя трусікі: спіс літаратуры ўжо састарэў, гісторыя запавольвала свой ход на «найноўшым часе» – настаўнікі, уздыхаючы і часам праклінаючы ўсё ўслых, запаўнялі стосы папер для справаздачнасці.

Дзённікі ва ўсіх аднолькавыя, у кожным кабінеце – адксераныя сцяг і герб, у рамачцы. Часам заняткі перапыняла завуч, і пачыналася пазапланавая дыктоўка: «Абавязваюся прытрымлівацца дзелавога стылю адзення; абавязваюся не выкарыстоўваць мабільнага тэлефона; папярэджаны аб адказнасці за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях». Якой менавіта адказнасці, не ўдакладнялі, дый якая розніца.

Маладому пакаленню старанна ўціралі, што мы – зусім сапсаваныя гультаі. З парадных шэсцяў збягаем, нават спорту мы не любім – на трыбунах лядовага палаца была заўважаная толькі палова класа. Але самым вялікім грахом было не жэрці ў сталовай. Для падліку грошай кожны тыдзень запаўнялі спецыяльныя сшыткі: можна было нават паесці ў пазыку, але каб абавязкова стаяў плюсік – бонус да тваёй рэпутацыі. Еш, што даюць! Не падабаецца – паўздзейнічаем на бацькоў, бо здароўе нацыі – вышэй за ўсё.

**У апошнім класе пачалася масавая кампанія ўступлення ў БРСМ. Аргумент быў жалезны: працэдура бязбольная, а дакументы ўхілістаў у ВНУ нават не разглядаюць. Зрэшты, чым менш ты высоўваўся, тым вышэйшымі былі шанцы стаць на ногі.**

Краіна і сёння апелюе да мяне: буслы і хакеісты, акуратна выкладзеныя з кветак, вялізны сцяг са святлодыёдаў – на паўсцяны новага гандлёвага комплексу, сацыяльныя плакаты – на кожным другім скрыжаванні. Наогул плакат – гэта асаблівы жанр, і ўсе элементы на ім – знакавыя. Вось прыгожая жанчына з дзіцём на руках, працаўнікі і Макс Мірны (дарэчы, якое прозвішча!) – Радзіма клапоціцца пра мой маральны выбар, падкідваючы свае падказкі. Дваццаць гадоў грошы, як уколы пластычнага хірурга, упампоўваюцца ў стварэнне «твару нацыі».

І ўсё ж эксперымент праваліўся.

Я гляджу на айчынныя дэкарацыі і адчуваю, што старанні далі адваротны эфект. Мы атрымалі краіну кітчу, з кіламетрамі зялёных і чырвоных лапікаў ды пластмасавымі шчытамі на Дзень Перамогі. Славутая чысціня на вуліцах аддае кастрацыяй – зноў моладзь нешта на сценках «напэцкала», і строгі дзядзька змывае ўсе прыкметы дэвіянтнай культуры.

Краіна выхоўвала новае пакаленне, ускладаючы на яго вялікія надзеі. Але замест таго каб вырасці адказнымі грамадзянамі, што рашуча крочаць на суботнікі і адпрацоўкі, мы сталіся пакаленнем касмапалітаў, гатовых шукаць сваё шчасце на захадзе і ўсходзе. Вядома, абагульняць не варта. Але нават калі нас меншасць, валавы ўнутраны прадукт усё роўна цярпіць.

Беларусы за мяжой – людзі ўнікальныя, яны добра адаптоўваюцца і амаль нічым не адрозніваюцца ад мясцовых. Вучаць мовы, падарожнічаюць і трошкі сумуюць па грэчцы. Але галоўнае, эміграцыя дае вельмі добры навык – здольнасць хутка тлумачыць, дзе месціцца Беларусь, а таксама дыстанцыявацца ад астатніх славянскіх братоў. Ну, накшталт адказаў – чаму ты размаўляеш па-руску, а рускія тваю родную мову не зусім разумеюць, і чаму ўкраінцы (як і ты, уласна) не «рускія»? Ведаю, што не толькі мне адʼезд вярнуў пачуццё ўнікальнасці. Унікальнасці, а не аднолькавасці, якую ўдзёўбваюць выхаваўчыя інстытуты.

Праз тры гады я зноў дома. Сябры купляюць квіткі ў адзін канец і зноў едуць кудысьці work & travel. Можа, і назаўсёды. Яны, зразумела, не гатовыя будаваць сваё жыццё ў аграгарадках і жыць у інфармацыйнай ізаляцыі. Магчымасць сарвацца і зʼехаць у любы момант – найлепшы з латарэйных квіткоў, што мы выцягнулі.Часам у спіну чуваць зʼедлівае: «І ты туды ж, за бугор…» Але сутнасць у тым, што межаў няма, а мы – грамадзяне свету.

І мы, маць вашу, маем рацыю!

34mag.net

# З ЛЯПІСАЎ «ВЫЛУПІЛІСЯ» ДВА НОВЫЯ ГУРТЫ

**Гурт «Ляпіс Трубяцкой», як і было абʼяўлена ў сакавіку, сёння спыніў сваё існаванне. Але прадказальна такая вялікая каманда прафесіяналаў не сышла пакуль на пенсію. Чуткі пра два новыя праекты замест «Ляпісаў», якім споўнілася сёлета 24 гады, хадзілі ў музычным асяродку даўно. Сёння ў Сеціве зʼявіліся сайты, песні і кліп аднаго з праектаў.**

**ПРАЕКТ BRUTTO**

У склад новага праекту ўваходзіць Сяргей Міхалок, агулам у кліпе прадстаўленыя шэсць удзельнікаў Brutto Band, у ліку вядомы чэмпіён па тайскім боксе Віталь Гуркоў.

На сайце праекту выкладзены яго маніфест з вялікай колькасцю клічнікаў, капслоку і тэстастэрону.

BRUTTO-Брыгада Рэвалюцыйнага чаду і Творчага Адпору імя Арнэлы Муці!!! Стыль ART-BRUT!!! ХІТ-КОР!!! Панкаўскі пауэр-ліфцінг для дзяцей і варʼятаў!!! Мы музычны Найк і паэтычная Ікея!!! Нам няма калі пісаць мудрагелістыя тэксты і рабіць складаныя аранжыроўкі!!! Мы спажываем Усе радасці Здаровага і Свабоднага жыцця !!!

МЫ ПРЫЙШЛІ І ЎСІМ ПІЗДЗЕЦ !!!

FUCK THE REST

...і гэтак далей.

**ПРАЕКТ TRUBETSKOY**

Не выпадкова ў назве праекту прысутнічае кавалак ад першаснай назвы «Ляпісаў», бо выглядае, што Trubetskoy стаў непасрэдным нашчадкам «Ляпіса Трубяцкога» з акцэнтам на першы перыяд жыцця гурта. У складзе новага гурта няма Сяргея Міхалка, на вакале - Павел Булатнікаў.

На сайце Trubetskoy.me змешчанае такое тлумачэнне: Trubetskoy - беларускі супергурт, у склад якога ўваходзяць былыя ўдзельнікі калектыву «Ляпіс Трубяцкі»: вакаліст Павел Булатнікаў, гітарыст Руслан Уладыка, бубнач Аляксандр Стаpажук, а таксама гітарыст Павел Трацяк («J: морс», «Крамбамбуля») і басіст Аляксандр Мышкевіч («J:морс», «Без Білета», «Крамбамбуля», Chiefsband).

Будучы правапераемнікам «Ляпісаў», група Trubetskoy плануе выконваць і старыя песні гурта (падвергнуўшы іх даволі сурʼёзнаму творчаму пераасэнсаванню), і новы матэрыял, праца над якім ужо пачалася.

Першым сінглам, які выпускае група Trubetskoy, стала песня «Ластаўка». Яна знаёмая фанам «Ляпісаў», паколькі час ад часу выконвалася на канцэртах групы, але пры гэтым, нягледзячы на просьбы тых жа фанаў, так і не была запісаная ў студыі і не выходзіла на альбомах «ЛТ». Trubetskoy вырашыў выправіць гэтую несправядлівасць і зрабіць сваю версію «Ластаўкі» для праекту «Lyapis Crew: ТРУбьют».

На сайце праекту Trubetskoy ужо заяўленыя некалькі выступаў на фестывалях і сольныя канцэрты, у тым ліку прэзентацыі «ТРУбьюта» «Ляпіса Трубяцкога».

34mag.net




Квіток на апошні канцэрт Ляпісаў у Вільні. Жнівень 2014 года.

# МОЎНЫЯ ПРЫКМЕТЫ «НАТУРАЛІЗАВАНЫХ» БЕЛАРУСАЎ

**Гісторык Анатоль Трафімчык апублікаваў у выданні «Літаратура і Мастацтва» цікавую працу «Моўныя прыкметы «натуралізаваных» беларусаў», у якой сабраў распаўсюджаныя памылкі і асаблівасці, з якімі сутыкаюцца маладыя беларусы, якія пачынаюць размаўляць на роднай мове не ад нараджэння.**

Аўтар просіць успрымаць матэрыял не як імкненне прынізіць ці абразіць, але як міні-дапаможнік па асвойтванні ў багатай і каларытнай беларускамоўнай стыхіі.

**АРФАЭПІЯ**

Вымаўленне з'яўляецца ці не галоўнай прыкметай асваення няроднай мовы. Вывучыць мову — адно, правільна вымавіць — іншае.

У беларускай мове асіміляцыя па мяккасці — вельмі распаўсюджаная. Выпадкі яе адсутнасці нас не цікавяць (як і відавочны акцэнт з выбухным г і мяккім ч). Тут усё ясна. Асіміляцыю многія пры жаданні адольваюць, але не бачаць тонкасцей у вымаўленні. А варта ведаць, што с', з', ц', дз' у беларускай мове — ці то ў асіміляцыйных пазіцыях перад мяккім зычным (акрамя г, к, х), ці то ўвогуле пры мяккасці — вымаўляюцца вельмі мякка, прынамсі, мякчэй, чым адпаведныя гукі ў рускай мове, недзе ў кірунку польскіх аналагаў s', z', c', dz', не даходзячы, аднак, да іх.

**ГРАМАТЫКА**

Не менш складана асвойваюцца аспекты граматыкі. Памылкі ў іх могуць быць не настолькі відавочнымі ў параўнанні з арфаэпіяй, асабліва пры веданні найбольш пашыраных формаў. Пералічым найбольш частыя.

Многія парушэнні нормы абумоўлены ўплывам рускай мовай, з якой адбываецца калькаванне. У прыватнасці, сярод «навучаных мове» часта чуецца прыслоўе «пабольш» (паболей, паменш, паменей) — прычым, такая форма трапіла нават у кніжныя тэксты! — у той час, калі беларускім аналагам з'яўляецца выраз з прыназоўнікам «чым»: чым больш (або проста больш — у залежнасці ад кантэксту).

Асабліва пашырана ўжыванне канчатка — ам у М. скл. мн. л. замест — ах: па палям — па палях, па машынам — па машынах.

Абсурдны перабор часам назіраецца ў прымяненні канчатка —у ў назоўніках Р. скл. м. р. адз. л. (напрыклад: да днЮ роднай мовы). У той жа час іншыя зусім ігнаруюць гэты канчатак, нават у выпадках абавязковага яго ўжывання выкарыстоўваць канчатак —а. Тут выяўляецца ўплыў адпаведна польскай і рускай моў (зрэшты, канчатак у такіх формах з'яўляецца праблемным нават для добрых знаўцаў, таму размова ідзе пра крайнія тэндэнцыі).

Вельмі грубай (але, на жаль, нярэдкай) памылкай з'яўляецца адсутнасць чаргавання зычных пры палаталізацыі ў выніку скланення слоў, аснова якіх заканчваецца на «г», «к», «х»: напрыклад, казка — у казке (замест правільнага «у казцы»); рука — на руке (замест «на руцэ»); Вераніка — Веранікe (замест «Вераніцы»). Часам здараецца і супрацьлеглы варыянт, калі пачынаюць чаргаваць зычныя, дзе не трэба: няма яго дачцы — замест няма яго дачкі. Няўменне скланяць словы «дзіця», «парася», «цяля», «кацяня» і да т. п. (відаць, праз рэдкую неабходнасць прымяняць іх на практыцы): ужыванне ў Р., Д., М. скл. формы Н. скл. — «дзіця» замест правільнай «дзіцяці».

Блытанне займеннікаў сабе — сябе (часам табе — цябе). Напрыклад: «Што ты сябе думаеш?», «Не бяры сябе да галавы», «Як сябе хочаш».

Няўменне правільна ўтварыць форму дзеяслова 2-й асобы мн. л.: кажуць «жывеце», «ідзеце» (з націскам на перадапошнім складзе) замест правільнага «жывяце», «ідзяце» (з націскам на апошнім складзе).

Імкненне да беларускамоўнасці спараджае тэндэнцыю «збеларушчваць» і такія словы ці элементы, якія гэтага не патрабуюць. Напрыклад, суфікс «ір», які надзвычай шырока распаўсюджаны ў рускай і адсутнічае ва ўкраінскай, у нашай ужо стала заняў сваё месца. Між іншым яго хочуць ліквідаваць: або праз прыбіранне (тады кажуць «асацыюецца» замест «асацыіруецца»), або праз трансфармаванне нібыта ў бок больш беларускага гучання (тады кажуць «камандыроўка», «камандыр» замест «камандзіроўка», «камандзір»).

Выклікае праблемы ўтварэнне множнага ліку ад слова «дзяўчына» — «дзяўчыны», калі трэба «дзяўчаты» (форма «дзяўчыны» выкарыстоўваецца толькі на месцы, дзе некалі быў парны лік (які зархаізаваўся) — ад дзвюх да чатырох: чатыры дзяўчыны).

**АКЦЭНТАЛОГІЯ**

Засваенне мовы праз навучанне (асабліва на аснове падручнікаў) непазбежна адаб'ецца на націсках. У прыватнасці, заўважаны такія выпадкі няправільных націскаў: скаргА — замест скАрга, вадзЯнік — замест вадзянІк, пастаноўка націску на манер рускамоўных формаў: спалА, забралА. Акцэнталагічныя праблемы маюць характар індывідуальны, але абавязкова прысутнічаюць у вывучанай мове.

**ЛЕКСІКА**

На слоўнікавы склад мовы звычайна звяртаецца першасная ўвага тых, хто яе спасцігае. Некаторыя нават мяркуюць, што колькасныя паказчыкі тут — гэта найлепшае сведчанне валодання мовай. Яны, безумоўна, важныя. Але іх нельга абсалютызаваць. Правільнае прымяненне слоў таксама можа шмат паведаміць пра носьбіта мовы. Да прыкладу, пытанне «Як справы?» – яўная штучная калька, натуральны аналаг якой – пытанне «Як маешся?».

Ізноў-такі не будзем чапаць відавочныя хібы, блытаніну ў сэнсах (накшталт: «Добры дзень, дарагая рэдакцыя! Вас бянтэжыць малады пісьменнік» — без каментарыяў; альбо: апынуцца замест аказацца). Паўсюдна сустракаецца ўжыванне некаторых, прабачце за таўталагічнасць, занадта слоўнікавых слоў, выразаў — замест больш натуральных для пэўнага кантэксту, больш адпаведных стылю выказвання: дрэнна замест кепска, цудоўна замест хораша, памятаць замест помніць, распавядаць замест расказваць, асадка замест ручка і інш.

Запаланілі сучасны беларускамоўны дыскурс займеннікі на -сьці (дзесьці, хтосьці, чыйсьці, якісьці і г. д.), якія выцеснілі свае аналагі з пачатковай часціцай не- (недзе, нехта, нечый, нейкі і г. д.), — прычым, у сітуацыях, калі відавочна на —сьці не пасуе («якіхсьці» ніколі не пасуе, «нейкіх» заўсёды лепей).

У многіх моўцаў назіраецца комплекс перад выкарыстаннем некаторых нейтральных беларускіх слоў (якія ў рускай маюць грубую канатацыю ці мадальнасць): дзеўка, цыцкі, жыд. Або наадварот — пашырэнне беларускіх слоў на непрымальныя паняцці: адчыніць вочы, бутэльку (а можна толькі дзверы ці вокны).




**Мастачка Воля Кузьміч. Серыя малюнкаў: "Як чуецца так і малюецца"**

**СІНТАКСІС**

Ці не найтанчэйшым аспектам у засваенні мовы з'яўляецца сінтаксіс. Нярэдка да яго ставяцца як да другаснага, тым больш калі вышэйпамянёныя пласты прайшлі адносна ўдалую апрабацыю. А насамрэч тут шмат «падводных камянёў». Яны абумоўлены часцей за ўсё ўплывам ці то рускай мовы (бо, як правіла, менавіта ёю карысталіся раней), ці то польскай (пры веданні апошняй — з мэтаю адрознення ад рускай мовы).

Так, у апісанні мэты руху натуралізаваныя беларусы выкарыстоўваюць канструкцыю з прыназоўнікам «за»: пайсці за хлебам. Трэба ж прымяняць прыназоўнік «па»: пайсці па хлеб.

Прыкладна тое самае назіраецца стасоўна ўжывання прыназоўнікаў «аб» — «пра» ў дачыненні да назоўнікаў адпаведна Тв. і В. склонаў: для беларускай мовы больш характэрны другі варыянт: думаю пра экзамен, а не аб экзамене (хоць у кніжных стылях распаўсюджаны і прыназоўнік «аб»).

Апошнім часам усё больш сустракаецца ў тэкстах і пры размовах прымяненне польскага прыназоўніка «да» ў месцах беларускага прыназоўніка «у»: паехаў да Менска — паехаў у Менск.

**ЗАКЛЮЧЭННЕ**

Да ўсяго сказанага трэба дадаць агульную стэрыльнасць, дысталяванасць мовы «натуралізаваных» беларусаў, адсутнасць у ёй дыялектных элементаў. З чаго вынікае, што пры ўсёй неабходнасці ўдасканальваць сваю мову і маўленне не варта схематызавацца, аддаляцца ад прыродых вытокаў, а наадварот — шчодра чэрпаць у іх моўныя веды і навыкі (галоўнай крыніцай тут стане літаратурная класіка — ад В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча да В. Гардзея і А. Федарэнкі, прычым, некаторыя раяць чытаць уголас, а вершы завучваць; на жаль, народных моўных асяродкаў становіцца ўсё менш і менш, хоць дарэшты яны яшчэ не зніклі). Сам працэс удасканалення трэба ажыццяўляць па ўсіх напрамках, сярод якіх, бадай, няма магістральных, бо любая мова — з'ява комплексная, і роднаснасць беларускай з суседнімі можа аказацца падманлівай.

**Паводле generation.by**

# ТОП-5 ЛУЧШИХ БЛЮД БЕЗ МЯСА

**Зачастую вегетарианские рецепты ассоциируются у многих с экзотическими кулинарными изысками индийской кухни. Однако вегетарианским может стать и вполне традиционный беларусский обед, для приготовления которого не нужны замысловатые восточные специи, а продукты можно без труда купить в ближайшем гастрономе за совсем небольшие деньги.**



## САЛАТ ИЗ ПОМИДОРОВ С БАКЛАЖАНАМИ

Практически универсальный салат, который может подаваться как холодным, так и горячим. Его можно употреблять как самостоятельное блюдо, с хлебцами или лавашом, а можно и как закуску к основному блюду.

Еще одно достоинство этого салата в том, что заготовку из баклажанов можно приготовить заранее и хранить в холодильнике несколько дней.

При наличии готового полуфабриката салат готовится за 5 минут.

- Баклажан – 4 шт.
- Помидор – 2 шт.
- Перец – 2 шт.
- Оливковое масло – 4 ст. ложки
- Зелень петрушки, черный молотый перец и соль, чеснок

Вымытые баклажаны запечь до мягкости в духовке либо порезать и обжарить на сковородке. Добавить масло, соль, перец. Смешать с нарезанными помидорами, зеленью и перцем.

Можно добавить чеснок.

## ЧЕЧЕВИЧНАЯ ПОХЛЕБКА

Чечевица – незаменимый источник белка. Его там больше, чем в куриной грудке – 24 грамма против 18 (на 100 г продукта).

К тому же чечевичная похлебка – очень древнее традиционное блюдо, которое упоминается еще в Библии.

Вариантов такой похлебки масса. Неизменным ингредиентом является чечевица, а в остальном – огромный простор для фантазии. Часто в состав похлебки входят также лук, чеснок, помидоры. Но можно экспериментировать и с другими овощами.

- Чечевица - 400 г.
- Лук репчатый - 3 шт.
- Помидоры - 2 шт.
- Чеснок - 4 зубчика
- Сливочное масло - 2 ст.л.
- Соль - 1 ч.л.
- Черный перец - на кончике ножа
- Тмин (молотый) - 2 ч.л.

Предварительно вымытую и замоченную на пару часов чечевицу положить в кипящую воду вместе с двумя нарезанными луковицами, помидорами и чесноком.

На медленном огне отварить до мягкости (примерно 45 минут). Подрумянить третью нарезанную луковицу на половине ложки сливочного масла.

Суп протереть через сито или измельчить в блендере (мне нравится измельчать часть супа, а часть чечевичек оставлять целыми), нагреть, добавить соль, перец, тмин, оставшееся масло и жареный лук.

Для густоты можно добавить также немного разведенной в воде муки.

К похлебке можно подать дольки лимона, гренки, жаренный хлеб с различными соусами.

## ЖАРКОЕ ИЗ КАРТОШКИ С ГРИБАМИ

- Картофель - 500 г.
- Грибы - 300 г.
- Крупная морковка
- Луковица
- Оливковое масло 6 ст. л.
- Соевый соус 1 ч. л.
- Соль, перец

На масле обжарить натертую на крупной терке морковку с луком, грибами и специями. Затем туда добавить нарезанный крупными кусками картофель, соль, соевый соус, немного кипятка, перемешать. Поместить все в горшочек или утятницу, поставить в разогретую до 200 градусов духовку примерно на полчаса.

## КАПУСТНЫЕ КОТЛЕТЫ

Овощные котлеты не имеют себе равных среди полезных диетических легких блюд. Кроме того, они просто подкупают своей лаконичностью, простотой и дешевизной.

Капуста – 1 кг.
Манка – 3-4 ст. ложки
Сухари панировочные – 2-3 ст. ложки
Соль, перец – по вкусу
Яйцо куриное – 1 шт.
Растительное масло

Нашинкованную капусту отварить в соленой воде 5 минут. Измельчить в блендере. В кашицу добавить яйцо (можно, хотя и необязательно, положить туда же пассерованный лук и морковь), соль, перец, манку, панировочные сухари, чтобы получился довольно густой фарш, который можно формовать в руках. Лепим котлетки (кстати, это лучше делать мокрыми руками). Выкладываем на горячую сковородку с маслом и обжариваем до корочки.

## ЛИМОННИК ИЗ МАНКИ

Нежный пирог с тонким вкусом… Даже не верится, что он сделан всего лишь из тривиальной манки и кефира.

- Манная крупа - 2,5 стакана
- Кефир - 400 мл.
- Сахар - 1 стакан.
- Ванилин — по вкусу
- Сода — 1 чайная ложка
- Сливочное масла - 150 г.
- Цедра одного лимона
- Ингредиенты для сиропной пропитки
- Сахар - 0,5 стакана
- Вода — 100 мл.
- Сок одного лимона

В растопленное сливочное масло добавить натертую цедру большого лимона (остатки фрукта отложить в сторону – они нам еще пригодятся) и остальные составляющие, кроме соды. Вымешать. Противень смазать, посыпать манкой. Непосредственно перед тем, как вылить тесто в противень, добавить соду и еще раз хорошо перемешать. Поставить в духовку, разогретую до 180 градусов и выпекать до золотистого цвета 40-50 минут.

В это время готовим пропитку: доводим до кипения сахар и воду, варим несколько минут, пока жидкость не станет прозрачной. Из остатков лимона выжимаем сок и добавляем в сироп. Поливаем им готовый пирог, который предварительно достали из духовки и перевернули.

Смачна есці!

# ЎЗ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСІ Ў 1939

**17 верасня 1939 года, 75 гадоў таму, савецкія войскі ўвайшлі ў Заходнюю Беларусь. СССР падзяліў Усходнюю Еўропу з гітлераўскай Германіяй. Але для беларусаў і ўкраінцаў гэта парадаксальна азначала ўз'яднанне, гістарычны шанец. У гісторыі не бывае простых шляхоў.**



*Урыўкі з кнігі даследчыка Анатоля Трафімчыка «1939 год і Беларусь: забытая вайна», прысвечаную гэтай падзеі, якая з'явіцца ў продажы ў бліжэйшыя дні.*

**1. Беларусь і беларускі народ прымалі ўдзел у Другой сусветнай вайне з першых яе хвілін**

За савецкім часам прынята было лічыць, што пунктам адліку стала 22 чэрвеня 1941, калі Германія напала на СССР, у склад якога ўваходзіла Беларусь. Аднак ці можна лічыць, што Савецкі Саюз не прымаў удзелу ў баявых дзеяннях да нападу на яго Германіі? Прынамсі дзве паўнавартасныя вайны Чырвоная Армія прайшла: спярша супраць Польскай Рэспублікі, трохі пазней супраць Фінляндыі. Адпаведна СССР стаў удзельнікам Другой сусветнай вайны 17 верасня 1939, калі Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. Паколькі ў складзе СССР знаходзілася Беларусь, а беларусы служылі ў Чырвонай Арміі, дык трэба прызнаць, што і Беларусь уступіла ў Другую сусветную вайну 17 верасня.

**2. Першыя нямецкія бомбы на беларускія гарады і мястэчкі зваліліся ў верасні 1939**

Адразу пасля нападу Германіі на Польшчу авіяцыя люфтвафэ стала бамбардзіраваць найбольш стратэгічна важныя аб'екты, перадусім аэрадромы, чыгуначныя вузлы і нават звычайныя станцыі. У выніку пацярпелі, напрыклад, Гродна, Ліда, Кобрын, Баранавічы, Ганцавічы. Нямецкія самалёты далятаілі практычна да польска-савецкай мяжы. У выніку бамбардзіровак былі забітыя і параненыя. Лік ахвяр, у тым ліку сярод мірных жыхароў, ішоў на дзясяткі.

Прычым бамардзіроўкам заходнебеларускіх населеных пунктаў і мірных жыхароў спрыяў Савецкі Саюз: па просьбе германскага боку ад 4 верасня з Мінска падаваліся спецыяльныя радыёсігналы ў якасці дапамогі для арыентацыі налётаў нямецкай авіяцыі.

**3. Першыя баі супраць нямецкіх захопнікаў на тэрыторыі Беларусі распачаліся ў верасні 1939**

Інфармацыю пра першую абарону Брэсцкай крэпасці ў савецкі час замоўчвалі. З 14 па 17 верасня палкі са значнай колькасцю беларусаў пад камандаваннем генерала Канстанціна Плісоўскага абаранялі крэпасць ад 19-га танкавага корпуса Гудэрыяна. Пасля таго, як супраціў стаў бесперспектыўным у сувязі з уступленнем на тэрыторыю Польскай Рэспублікі Чырвонай Арміі, абаронцы Брэсцкай крэпасці вырашалі пакінуць яе. Але ў ёй засталася купка дабраахвотнікаў на чале з капітанам Вацлавам Радзішэўскім. У хуткім часе давялося супрацьстаяць ужо савецкаму войску. У ноч на 27 верасня лічаныя жаўнеры паасобку выходзілі з акружэння.

**4. Першыя баі Чырвонай Арміі і вермахта адбыліся ў верасні 1939**

20 верасня 1939 салдаты наступаючых армій упершыню сустрэліся. Не ўсюды тыя сустрэчы (з розных прычын) праходзілі цёпла. Мела месца такая нямецка-савецкая сутычка і на тэрыторыі Беларусі: 23 верасня ля Відамлі (цяпер Камянецкі раён Брэсцкай вобласці), часткі 10-й танкавай дывізіі вермахта абстралялі конны раз'езд разведбатальёна 8-й стралковай дывізіі. У выніку абстрэлу 2 чалавекі загінулі і яшчэ дваіх паранілі. У адказ з бронемашын разведбатальёна быў адкрыты агонь па нямецкім танкам, адзін з якіх быў знішчаны разам з экіпажам.

**5. Па тэрыторыі Заходняй Беларусі Чырвоная Армія ў верасні 1939 прасоўвалася з такой жа хуткасцю, як вермахт у чэрвені 1941**

У гэтым падабенства паходаў бальшавікоў і нацыстаў па адной і той жа зямлі. Але ёсць і істотная розніца. Для параўнання адзначым, што тэхнікі падчас вераснёўскай кампаніі для заняцця Заходняй Беларусі Савецкім Саюзам было выкарыстана больш чым у чэрвені-ліпені 1941 г. Германіяй падчас акупацыі БССР.

**6. У немцаў была ідэя арганізаваць пад сваім пратэктаратам дзяржаўнае ўтварэнне пад назвай «Заходняя Беларусь».**

Пасля нападу Германіі на Польшчу савецкія палітыкі вытрымлівалі паўзу. Чырвоная Армія чакала больш зручнага моманту для наступлення. Берлін знайшоў смеласць нават для свайго роду пагрозы: І. Рыбентроп заявіў аб магчымым спыненні вайны, калі Расія не пачне наступленне, і нават арганізацыі на ўсходніх землях Польшчы трох буферных дзяржаў – польскай, украінскай і беларускай. Відавочна, аднак, што германскі бок далей пагроз і дыскусій у справе суверэнізацыі Заходняй Беларусі не мог пайсці.

**7. Падзел Польскай Рэспублікі Масква разглядала як падзел Польшчы, а не ўз'яднанне Беларусі і Украіны.**

Чырвоная Армія ішла на Заходнюю Беларусь пад лозунгамі вызвалення кроўных братоў. Але напярэдадні пакта Молатава-Рыбентропа адной з галоўных высноў па дыпламатычных перагаворах з'яўляецца наступная: у іх не фігуравала Беларусі – ні як суб'екта, ні як — хаця б! — аб'екта.

**8. У верасні 1939 была спроба арганізацыі ўзброенага супраціву за незалежнасць Беларусі**

Скептыкі могуць запытаць: незалежнасць ад каго? Адказ можа здзівіць: і ад Германіі, і ад СССР.

Яшчэ да нападу Германіі на Польшчу колішнія грамадоўцы (сябры БСРГ) распрацавалі ідэю стварэння Заходняй Беларускай Рэспублікі (ЗБР).Каб не дапусціць захопу гэтых тэрыторый вермахтам, пачаліся арганізоўвацца ўзброеныя атрады. Першы загад распачаць баявыя дзеянні датычыўся ўзяцця пад кантроль Пінска, у які планавалася ўвайсці 18 верасня. Але за дзень да штурму (вядома, з прычыны пераходу савецка-польскай мяжы Чырвонай Арміяй) аперацыя была адменена.

Пазней прыхільнікі ЗБР трансфармавалі сваю дзейнасць ў партызанскі рух. У далейшым беларускія нацыяналісты імкнуліся выкарыстаць сусветную вайну на службе фашысцкай Германіі, але не здолелі дасягнуць сваёй мэты.

**9. Як бальшавікі сталі «башлыкамі»**

За лічаныя дні верасня 1939 сітуацыя для заходнебеларускага насельніцтва змянялася, прычым у бок чаканняў пераважнай яго часткі. А яно чакала святла з усходу. Неўзабаве нядаўнія польскія грамадзяне (перш за ўсё беларусы і яўрэі) шчыра віталі Чырвоную Армію і савецкую ўладу. Штампам стала паведамленне пра ўзвядзенне трыўмфальных брамаў у гарадах, мястэчках і нават сёлах.

Паводле ўспамінаў, многія беларусы чакалі перамен да лепшага, і чырвонаармейцаў называлі не інакш, як «нашымі». Але ў хуткім часе разглядзелі сутнасць вызваліцеляў і бальшавікі ў іх вуснах не без іроніі трансфармаваліся ў «башлыкоў». Больш за тое, зараджаліся надзеі на новых «вызваліцеляў» – у абліччы салдат вермахта. Яны з'явіліся летам 1941 г., і знайшліся такія, хто сустракаў іх з хлебам-соллю.

**10. 17 верасня ніякага ўз'яднання Беларусі не было.**

17 верасня 1939 г. з'яўляецца толькі датай, паводле савецкай тэрміналогіі, вызвалення, але ні ў якім разе не аб'яднання. Кіраўніцтва Савецкага Саюза на той час само яшчэ не ведала, ці будуць «крэсы паўночна-ўсходнія» ў адной рэспубліцы.

Фармальна аб'яднанне Беларусі адбылося толькі амаль праз два месяцы пасля «вызвалення».

Але і гэта яшчэ не ўсё. Бо гэта – толькі юрыдычны бок справы. Фактычна аб'яднанне Беларусі адбылося яшчэ пазней, толькі пасля вайны.

Рэч у тым, што праз нядаўнюю савецка-польскую мяжу не зрабілі вольнага перамяшчэння. Яна вельмі пільна ахоўвалася вялікімі сіламі памежнікаў. Атрымліваецца, што звычайныя людзі атрымалі магчымасць перасекчы былую савецка-польскую мяжу толькі падчас германскай акупацыі. З 17 верасня 1939 г. да канца чэрвеня 1941 г. гэта была фактычна мяжа беларуска-беларуская.

**Паводле nn.by**

## ДАРЭЧЫ

Вырашыў мужык гадоў так у 35-40 хрысціцца. Прыняў для адвагі і пайшоў. Бацечка сабраў некалькі чалавек, досыць дарослых, і кажа:

- Зняць споднія кашулі і штаны – да калена… (меласа на ўвазе закатаць).

Мужык, відаць успомніўшы медагляды ў ваенкамаце, добрасумленна спускае штаны да каленаў… Усе ў лёгкім шоку, толькі бацечка не разгубіўся:

- Сын мой, ты якую веру збіраешся прымаць?

***

Ідзе святар па дарозе і бачыць, як мужык траву косіць. А на касе ў яго званочак прывязаны.

- Навошта, мужык, ты званок на касу павесіў.

- А затым, каб ад звону ў траве ўсякія птушачкі-мышкі разбягаліся і я нікога касой не пашкодзіў.

- Вунь ты як аб істотах зямных клапоцішся, давай я табе за гэта грахі адпушчу. Ёсць у чым пакаяцца?

- Так,бацюшка, ёсць. Я з гаспадарскай дачкой грашу ў амбары.

- Ну што ж, адпускаю гэты грэх. Ёсць яшчэ што?

- Так, бацечка, яшчэ з гаспадыняй грашу.

- Не добра, вядома. Але, калі абяцаў, адпускаю і гэты грэх.

- А калі гаспадыня з дачкой у горад на кірмаш з'язджаюць, я з гаспадаром грашу.

- Мужык, ды табе званок не на касу вешаць трэба!

***

Сядзіць малады (гадоў 12-ці) Майкл Карлеонэ… Задумаўся. Побач статуэтка панны Марыі. Хутка Новы год. Свечкі вэндзіць пачынаюць… Бярэ Майкл аркуш паперы і піша:

"Дарагі Божанька! Хутка Новы год. Падары мне, калі ласка, вялікі чырвоны ровар з никеліраванымі пад…"

Аглядаецца на божую маці, уздыхае:

– Не падорыць! Дарма мы тады гэтага хлопца замачылі… Ну ды ён сам вінаваты, навошта ў чужы раён прыпёрся?

Яшчэ раз уздыхае і выкідае свой ліст. Праз пару хвілін бярэ новы аркуш паперы і пачынае зноў:

"Дарагі Божанька! Хутка Новы год. Падары мне, калі ласка, вялікі чырвоны ровар з никеліраванымі пад…"

Аглядаецца на божую маці, уздыхае:

– Не падорыць! Дарма я тады гэтую дзеўку згвалціў… Ну ды сама вінаватая, я ж ёй дзвесце баксаў прапаноўваў, не ўзяла.

Ізноў уздыхае і выкідае ліст… Потым ускоквае з-за стала з выглядам чалавека, які знайшоў выхад з цяжкага становішча, выбягае на хвіліну, вяртаецца з невялікай драўлянай скрыняй, цвікамі і малатком. Кладзе божую маці ў скрыню, забівае цвікі і садзіцца пісаць ліст:

"Карацей, Бог! Калі ты жадаеш убачыць сваю маці…"

***

– Сярод вас, дзеўкі, я пачуваюся як у Афрыцы.

– А як у Афрыцы?

– Вакол адныя кракадзілы.

***

Тое, што добрых людзей значна больш, чым дрэнных, лёгка даказаць, калі суаднесці колькасць выбаршчыкаў і кандыдатаў.

Вялікабрытанія. Судовы запіс N12659. Справа цяжарнай жанчыны.

Жанчына прыкладна на 8-м месяцы цяжарнасці села ў аўтобус. Яна заўважыла, што мужчына насупраць глядзіць на яе і ўсміхаецца. Яна неадкладна перасела на іншае месца. Мужчына ўсміхнуўся шырэй, жанчына зноў перасела. Мужчына заўсміхаўся ва ўвесь рот. Калі жанчына перасела ў 4-ты раз, мужчына заржаў на ўвесь аўтобус. Яна паскардзілася кіроўцу і мужчына быў арыштаваны.

Выпадак быў перададзены ў суд. Суддзя спытаў мужчыну (прыкладна гадоў дваццаці), што ён можа сказаць у сваё апраўданне?

– Высокі суд, усё было прыкладна так: калі жанчына зайшла ў аўтобус, я нічога не мог зрабіць, але заўважыў яе стан. Яна села пад рэкламным знакам "Падвойныя Мятныя Двайняты на падыходзе" – я ўсміхнуўся.

Затым яна перасела на месца пад знакам "Мазь Слогана паменшыць пухліну" – і я зноў змушаны быў усміхнуцца. Затым яна перанесла сябе на месца пад знакам "Вялікая палка Вільяма зрабіла сваю справу" (William's Big Stick did the Trick) – і я ледзь стрымліваў сябе. Але калі ў чацвёрты раз яна перасела і апынулася пад знакам "Гума Goodyear магла прадухіліць гэты няшчасны выпадак", я не стрымаўся. (Goodyear Rubber could have prevented this accident).

Суддзя:

– АПРАЎДАНЫ!

***

Сыну аднаго габрэя прыйшоў час ажаніцца. Бацька,заклапочаны будучыняй сына,кажа яму:

– Давай я пазнаёмлю цябе з добрай дзяўчынай.

– Не, – адказвае сын, – я сам знайду сабе жонку.

– А калі яна дачка Ракфелера?, – пытае бацька.

– Ну, добра, тады іншая справа!

Бацька тэлефануе Ракфелеру:

– У мяне ёсць выдатны жаніх для Вашай дачкі!

– Не, дзякуй, – адказвае Ракфелер. – Мая дачка занадта маладая для замужжа!

– А калі малады хлопец – намеснік прэзідэнта Сусветнага банка? – пытае бацька.

– Тады, ясна, іншая справа, – адказвае Ракфелер.

Габрэй тэлефануе прэзідэнту Сусветнага банка:

– Ці не патрэбен Вам малады хлопец на пасаду намесніка?

– Не, дзякуй, у мяне і так намеснікаў больш, чым трэба! – адказвае прэзідэнт.

– А калі гаворка ідзе пра жаніха дачкі Ракфелера? – пытае габрэй.

***

Вырашыў стары габрэй навучыць свайго сына-балбеса розуму. Паслаў ён яго вучыцца ў сінагогу. Праз тыдзень прыходзіць паглядзець, як поспехі. Рабін:

– Такі балбес, такі балбес! Усе дзеці як дзеці, а гэты ніфіга не робіць, мацюкаецца і ўвогуле, забірайце яго на фіг, не патрэбныя мне вашы грошы!

Габрэй засмуціўся і адправіў сына вучыцца да праваслаўнага святара. Праз тыдзень заходзіць. Святар:

– Усе дзеці такія даўбакі, а Ваш – проста золата.Што ні скажаш, усё зробіць! Сам дапамогу прапаноўвае.

Габрэй, западозрыўшы няладнае, кліча сына, маўляў, з чаго гэта раптам такія поспехі? А сын і кажа:

– Заходжу я, значыць, у царкву, і бачу – вісіць на крыжы габрэй прыкуты. Я зразумеў – тут з габрэямі не жартуюць!

Калі дзядуля на сваё васьмідзесяцігоддзе задзьмуў усе свечкі на торце значыць, кватэра вызваліцца яшчэ не хутка.

***

Дыялог у кавярні:

– Мадам спяшаецца?

– Мадам не спяшаецца.

– Мадам вып'е кубачак кавы?

– Мадам вып'е кубачак кавы.

– Мадам не замужам?

– Мадам замужам.

– Мадам можа патэлефанаваць мужу і сказаць, што яе толькі што згвалціў незнаёмы мужчына?

– Мадам можа патэлефанаваць свайму мужу і сказаць, што яе згвалціў незнаёмы мужчына шаснаццаць разоў запар.

– Шаснаццаць разоў?!

– Мсьё спяшаецца?

***

Інтэлігентная сям'я. 17-гадовая дачка цяжарная. Усе ў шоку, мама п'е валакардзін і выцірае слязу карункавай хустачкай. Тата панура п'е Мартэль дваццацігадовай вытрымкі. Усе чакаюць прыезду віноўніка.

Каля пад'езда спыняецца чырвоны Ферары, з яго выходзіць сталы мужчына ў гарнітуры ад Кардэна і туфлях з чырвонага бегемота. Ён падымаецца ў кватэру і, спыняючы ўсе охі і ахі бацькоў, кажа:

- Значыць так. Я вельмі вядомы чалавек, у мяне сям'я, я не магу іх кінуць. Аднак і Вашу дачку я не пакіну. Я вырашыў так. Калі Ваша дачка народзіць хлопчыка, то ён атрымае ў спадчыну два маіх завода, 20 мільёнаў даляраў, адукацыю ў Гарвардзе, а Ваша дачка пажыццёвае ўтрыманне ў памеры 2 млн. у год. Калі яна народзіць дзяўчынку, то яна атрымае ў спадчыну маю фабрыку, 10 мільёнаў даляраў, адукацыю ў Оксфардзе, Ваша дачка – пажыццёвае ўтрыманне ў 1 млн. Ну а калі ў яе здарыцца выкідак…

Тут устае бацька, ставіць чарку на стол, падыходзіць да мужыка, кладзе яму руку на плячо і кажа:

- Тады ты перасліш з ёй яшчэ раз!

***

Інтэрнэт як жыццё: рабіць няма чаго, а сыходзіць не хочацца!

***

- Не, што ні кажыце, а я люблю добрае кіно. Такое, каб з мазгамі… Каб мазгі па асфальце…

***

Першымі Вялікі гадронны калайдэр запусцілі дыназаўры…

***

Прыкмета бландынкі: калі пацягнула на салодкае, значыць мозг запрацаваў!

***

На мінулых выбарах падаўляючая большасць насельніцтва Беларусі выказалася за прэзідэнта Лукашэнку. А падаўляемая – супраць.

***

Грузін глядзіць на сваё дзіця. Той увесь валасатывааласаты. Ён пытае жонку:

- Тамара, слухай, ты яго нарадзіла або звязала?

***

Як вядома, на Усходзе існуюць два буйныя заводы: Japan і China.

Прычым абодва знаходзяцца ў правінцыі Made in…

Дзедзіч ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 20.10.2014 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў
**№1(87) • КАСТРЫЧНІК 2014**